Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Цана нумару 15 гр.

№ 2. Вільня 15 Красавіка 1934 г. Год I.



Рэдакцыя і анміністрацыя
WILNO,
ul. S.S. Miłosierdzia Nr. 18 m. 5.

Прэнумэрата: у год 3 зл.
у поў года 1,50 зл.

ДВУТЫДНЕВІК ГРАМАДЗКАГА ГУМАРУ і САТЫРЫ.

## Стаіцё вы голыя, як турэцкія сьвятыя.

Падводзячы вынікі сьвяткаваньня 16 угодкаў Б.Н.Р. „Родны Край" піша:

„Раніцай адбыліся царкоўна-касьцельныя (санацыйна-хадэцкія .. заў. асв.) урачыстасьці .. Увечары-ж наладжаны былі дзьве акадэміі Т.Б.А і хадэцыяй"..

Аб хадэках, Антоша Луцкевіч атклікаецца так:

„Хадэцкая акадэмія складалася з рэфэрату кс. Гадлеўскага аб падзеях, якія папярэдзілі, ці былі зьвязаны з актам 25 сакавіка 1918 году. Прамоўца расказаў шмат падробнасьцяў, дагэтуль мала ведамых нашаму грамадзянству".

Нарэшце, заканчваючы цешыцца Луцкевічаўская „брація":

„Публікі хапіла на абедзьве акадэміі.. Беларусы паказалі, што яны ў сталіцы Краю ёсьць і ня толькі не слабеюць тут, але крапчэюць".

Так працоўныя Заходняй Беларусі разам з сваімі братамі, паказалі вас паночкі, зьдзёршы шматгадовую маску і стаіцё вы сёньня, голыя, як турэцкія сьвятыя з усею сваею беларуска-буржуазнаю пудоўнасьцю. Ад лаянак, адзін на аднаго, пачынаеце перахоцзіць да цёплых гутарак:

— Нас толькі двое,
Абое мы рабое,—
Хоць розным быў наш шлях:
Адзін будуем гмах:
На ім дэвіз пагоні
І жыцьця нашы гоні
Вядуць у тую дзьвер,
Дзе зорка — Б.Н.Р.

Работнік і працоўны селянін з вашага сьвята робіць свой вывад:

— Яны кажуць, што на сьвята,
Хапіла нашага ім брата,
Што салі поўныя былі
Незалежнасьцю цьвілі
У вас ня была люду працы,
Пір вялі „дварцы", палацы,
Там Астроўскі і Луцкевіч,
Кс. Гадлеўскі і Станкевіч
Праглядалі здрады шлях,
„Дзе з аружжам у руках
Мужна біліся за ідэі".
Тут сабраліь ліхадзеі,
Чорнай зграі груганы
Беларускія паны.

Зьмітрук Быліна.

## „Ахвярная культурная праца".

(Найвялікшай імпрэзай у 1933—34 г. былі г. зв. „беларускія бліны". Са справаздачы віленскага аддзелу Бел. Інст. Гасп. і Культуры).




Сямейка чыстакроўная
Хадэкаў ўсіх масьцей;
І мэта іх вымоўная.
Нам ведама часьцей.

Сабраліcь таўстапузыя
На сьвята І. Б. К.
Блінцы блінцы, а твары ўсіх
І каркі, як ў быка.

Культурнай працы людзі тут;
Палітыка, то брэд —
Асьветы лёзунг ўсюды пруць,
Як сродак ад ўсіх бед.

Ідэйкі белнародныя
Паны снуюць, снуюць.
Працоўныя - галодныя
Праклёнства—ганьбу шлюць.

## Узьняўся крык...

Быў дваццаць пяты сакавік. На акадэмію,— на сьвята сабраліcь ўсе паны; прымусам сoгнаны хлапчаты, гемназіяльныя дзяўчаты прыпёрлі рой „АСВЫ". Падняўся раптам крык: „бальшавік!!!... „бальшавік!!! „АСВА" тым крыкам неўнімала,— да сэрца проста пхала джала. Панам зрабіла многа болі; ім не забыць таго ніколі, як ў дзень славуты Б. Н. Р. „АСВА" ўварвалась проста ў дзьвер.

Асвёнак.




Kurjer Wileński' і „Włóczęga" пішуць, што уся бяда на крэсах у дрэнных атмасфэрычных варунках.

Над сялянскаю страхою
І над беднай паласою
Голад, нэндза і халера,
„Усяму вінна атмасфэра".
Пішуць так газэтаў рой
У цэлым польскім краю, —
Атмасфэра ды не строй, —
Вось чаму ўміраюць.



* * *

Тут здаецца ўсё ў парадку, —
Маюць хлеб, дарогу гладку,
Скаліць зубы сонца;
Атмасфэра тут чысьцютка
Прэць у кожнае ваконца
— Так яны сьмяюцца „грэзы",
І бурліць жытуха...
У селяніна пот і сьлёзы,
А там ў тлушчы бруха.

---

# Панскія разважаньні.

Пішучы аб голадзе, Антон Луцкевіч кажа:

„ „Усё гэта вынікі таго, што не дадзена хлебаробу нашаму неабходнае агранамічнае веды".

Пан Станіслаў Сімановіч ў часопісу „Влучэнгэ" прычыны галоду бачыць у атмасфэрычных зьявах і шматгадовай акупацыі (?!) рускага ца рызму?!

Селянін адчувае усё на сваёй скуры і коса дзівіцца, як на аднаго, так і на другога.

Працоўны.

# Жытуха.

З газэт, гэта значыць, мы даведаліся, што ў гэтым годзе у СССР будзе утворана 1300 новых пунктаў электра-энэргіі Электрафікуюцца 102 машына трактарных станцыі і 159 калгасных ферм.

А ў Корсунскім раёне (Кіяўскай вобласьці— Совецкая Украіна) да 1 траўня заканчваецца гідростанцыя, катора дасьць энэргію тром суседнім раёнам.

У калгасах будуць электрыфікаваны ўсе працэсы вытворчасьці: малацьба, даеньне кароў, прыгатаваньне корму, забясьпячэньне вадою, награваньне памешканьня і паліўка палёў.

Вось, як там закелзваюць гэтую самую, пры роду і кажуць: рабі, братку, за нас, нечага табе дурака валяць, у хаванага з ветрам гуляць. Лезь пад карову, бяры ў рот цыцку і гані сюды малако.. малаці хлеб... сікай на полі дажджом..... На Ільлю няма чаго надзеяцца, яго пара адышла.. Ня хочаш?! не падпарадкуешся?! У нас брат жарты дрэнныя, а то і на луну дарогі мерыць пашлем...

Вось, якія справы, закелзаюць гэта значыць, прыроду, а самы рукі ў кішэні прагульваюцца ды штэпсалі пакручваюць, а там электрыка,—дзікая сіла да гэтуль будзе рабіць сваю справу...

Жытуха, брат, як у казцы...

Кастрыца.

---

## ЯПОНСКІЯ ІМПЭР'ЯЛІСТЫ Ў МАНДЖУРЫІ



І калі сьвіное рыла
Суне хто ў Совецкі край.
Ен дастане без мярыла —
Пойдзе жыць адразу ў рай.






Есць Пешчанікі мястэчка
Ад Беластока недалечка;
Дзе жыве Язэпка Грэсь;
Знаець люд яго увесь.
Той Язэп, што старшынёю
Быў Управы Акружной;
У верх з паднятай галавою
Насіў нос задзерты свой.
Што ня раз трос кулакамі
На Галоўную Управу;
Сёньня горлам і бакамі
Робіць вось якую справу.
Накруцілі яму гайку, —
З Грэся робяць, проста лайку,
Што крычыць, галосіць брэды —
„Праз культуру зьнішчым беды“.
Пасудзеце-ж працы людзі
Каму карысьць ад Грэся будзе;
Каму робіць Язэп ласку, —
Што галосіць, зьняўшы маску

Тэбэшонак

## Рагочуць лічбы.

У БССР, як падаюць газэты лічба школ у 1933 г. дайшла да 8546 (ў 1931 г было 6507). У школах вучыцца 1 148.000 дзяцей (96 прац. усяе лічбы дзяцей у Сов Беларусі).

У 933 г. існавала 19 вышэйшых школ, 83 тэхнічныя школы, 35 рабфакаў (работніцкіх факультэтаў) 27 навукова - дасьледчых устаноў на чале з Беларускай Акадэміяй Навук.

Тэатраў ёсьць 11, штодзенных газэт — 11, якія друкуюцца у ліку 297.500 экз. Раённых часопісаў выходзіць 75 у колькасьці 298.000 экз.

Нацдэмы - ж чхаюцца й плююцца
— Культура зьнішчана — прымус,
Радкі тут лічбамі сьмяюцца,
А ў іх працоўны беларус.

З. Б—на.

# Дзербанулі...

Да чаго гэтыя санатары хадэкі ды іншыя іх саратнікі сталі нахабныя — самы праўду хаваюць, а робяць від што за праўду гарой... Апошнімі часамі раззлаваны што засталі злапаны на гарачым учынку разам з сваімі калегамі: Дварчанінам, Ракам, Мятлой і Бурсэвічам накінуліся, як галодныя воўкі на рэформу беларускага правапісу, там у БССР, паднялі - такі гармідар, што здаецца ад гэтае Савецкое Беларусі, у Саветах нічога не засталося апрача пустога месца „Мову зьнішчылі“, „культуру зьнішчылі“; „вучоных людзей на Салаўкі павысылалі“; маскалёў усюды панасадзілі“, — крычаць яны на ўсіх скрыжаваньнях.. Крычаць і робяць від сапраўдных абаронцаў, не інакш як толькі усяго „суцэльнага і непадзельнага“, беларускага народу.

Дык якую-ж гэта мову нішчыць новы правапіс? Аб гэтым маўчаць. Хітруны, ведаюць добра, калі пачнем баўбатаць, уступаць у дробязі, то яшчэ можна заблытацца і выбаўтаць сябе з галавою. Але-ж перад „Асвой“ і мільёнамі ой на порлівых „асьвят“, усё роўна не схавацца. Мы ўжо даведаліся, што гэтыя „татачкі“ і „мамачкі“ бароняць сваю санацыйна — хадэцка — нацдэмаўскую мову культуру і сваіх „вучоных“ людзей.

Вось каб не быць галаслоўным, прыточваем „мастацкі твор“, напісаны выдатным беларускім пісьменнікам Лынькоўым паводле нацдэмаўскіх рэцэптаў — слаўнікоў.

Ціха грукацела брыка.

Кандрат ехаў да хаты выдлыж бліжняга поля якое пасьцілалася блехам.

Быў кіжыль. Абванзоплены конь зусім аба мрэў, амбарасна ківаў галавой, матляў засохлівымі вушмі Але. заўважыўшы даражэнь, ён аптэсам, аб адным якім кампеньні кінуўся за вароты і ўкульміўся ля возу з сенам.

Кандрат пайшоў у хату.

— Палі сьвятло, — кінуў ён з парогу да жонкі, скінуўшы генчыкі на лаву, на якой сталі каўбыры да казанкі з бубурамі.

Жонка доўга поркалася ля гцынцалю, усё не магла знайсьці сярнічак.

— Ды што ты гнюпаіш там?

— Адвяжыся ты, анцуюд, не даеш мне аталёку. Сам вось, апікулат такі, схаваў мусіць сярнічкі ў шопу—няма ніводнай.

— Ну, гэта браце абэлка.

— Абэлка, не абэлка, а атумэка поўны... Урэшце жонка запаліла сьвятло.

— Ну, дык не блакуняйся ты па хаце, ды дай мне есьці. Трэба-ж дукрыць урэшце..

Яна павярнулася да яго, у колычах, высокіх барлёгах і палапленым дрыліху, з непавязаным завыкам.

— Кінь ты жміндзіць, толькі - ж сьнедаў. здаецца, бонда гэткая.. Вазьмі хіба дзярбонікі ў печы.

— Якія-ж тут дзярбонікі, калі, можна сказаць, тут адны ахаракті засталіся.

Хопіць.. хопіць, аж надта мажа абураўшыся, крыкнець нам чытач, змучаны: „блехамі“, каўбырамі“, „абэлкамі“, „дзербонікамі“ і усімі нацдэмаўскімі „ахраткамі“. Але ж што ты значыш чытач, мільённы асьвіны рой, для іх нацдэмаў? Яны бароняць такую мову называюць яе культурнаю, а людзей якія працавалі на гэтым сьметніку „вучонымі“. Дык рэформа беларускага правапісу так іх усіх „дзербанула“, што паляцелі „блехі“, „ахраткі“, „дзербонікі“ разам з сваімі „вучонымі“. Яна зруйнавала, штучна пабудованыя, муры паміж мовамі: беларускаю і расейскаю, зрабіла беларускую мову жывою, прастою і масам даступную. Гэта іх дапякло, мае браточкі, ды так дапякло, што месца сабе не знаходзяць і лаюцца, як цапныя.

ВОКА.




З выхадам „АСВЫ“ хадэкі распачалі траулю супроць яе і людзей працуючых у ей.

На ланцугох барзыя брэшуць,
З „АСВОЙ“ героі нашы чэшуць,
Дзе гістарычнай праўды цень
Лягла на іх хадэцкі дзень.

У—цю., у—га.. а. Кусі, трымай,
Не нашай людзі косьці крові;
Барзыя поднялі тут лай
На хадэцкай, ўласнай мове.

„Прадажнікі!!! саветафілы!..“
Заплыўшы тлушчам, — крычаць рылы,
Барзыя пеняцца і брэшуць,
Сыны працоўных на перад чэшуць.

Люты.

## Гэй браточкі!

Гэй браточкі, ня сумуйце,
Бач ізноў „Асва“ ляціць,
Адчыняйце шырэй хату,
Яна ўсіх развесяліць.
Сабірайцеся наўкола,
Адзін стане хай чытаць,
А ўсе слухайце уважна
Каго будзе там кусаць.
Потым хлопцы, прачытаўшы
Прывітаньне ёй паслаць
Ды сабраўшы на пяць грошай
„АСВЫ“ фонд узмацаваць
Во „АСВЫ“ браткі ня любіць
Хто з працоўных смокча пот,
Яе мусіць падтрымаці
Наш працоўны харавод.

М. Д.
(Смургонь).

## Кнам у шэрэгі!

Ты чаго, Панас, стаіш?
Рот разьзявіўшы глядзіш,
Як рыдлёўкамі капаем
Дзірваны, адлог ўспухляем;
Зярнё кідаем у ролю,
Каб пажаці шчасьця волю.
Засукай, брат, рукавы.
Давай разам, дзірваны
Будзем рваць, рубаць і сечы,
Каб лягчэй жылось на сьвеце,
Каб ўсю гніль ўзарваць да грунта, —
Мы-ж сыны зары і бунта!..
Дык чаго, Панас стаіш,
Ні то едзеш, ні то сьпіш,
Узварухні брат галавою,
Ды паходкаю стальною
К нам ў шэрэгі на дзірван, —
Узмацняй працоўны стан.

Бадзёры.

## Падтрымалі.

У Валкавыску ў самым месьце
Сялян сабралася, больш, дзьвесьці
І ну к старосьц , аж пад гмах —
Падпяўся там і шум і жах.
Сяляне голасна крычалі:
— Мы патрабуем каб нашы дзеці
Пазналі веды аб ўсім сьвеце
У школе з роднай мовай,
З адною, кажама, умовай...
На кошт дзяржавы, не на наш
Бо ў нас нічога — ўжо ня маш.
Староста вус свой падкруціўшы,
Усьмех па іх злягка пусьціўшы
Зірнуў з пад лоба на натоўп,
Ды кажа:
— Добжэ... добжэ слухалэм мосьці,
Тэраз поведзець дайце старосьце...
— Мувіце ензык ваш впровадзіць
Абы Польскэн мне ту згадзіць,
Пшэцеж го нікт не ужыва,
А люднасьць вцале не розуме!
Сяляне моўча непужліва
Стаялі з планамі у думе.
Яўрэяў група тут была,
У кожнага сваі дзела.
Да іх староста узьвярнуўся,
Яшчэ мацней ён усьмяхнуўся,
Пытаецца, што мае сілы:
— Чы вы панове ужываце
В гандлю, вшэндзе і у хаце
Тэн ензык бялорускі?
Яўрэі ціснулі плячамі...
І развадзілі ўсе рукамі —
Казаўся дзіўным ім староста,
Адказ гучэў іх вельмі проста:
— Так... так... паночку...
Мы ўдзень і ўночку,
— І нават на вялікдзень свой
Жывем з суседняю братвой;
Жывем і гутарку вядзем
Пабеларуску кожны дзень.

Кастрыца.

## Драбностка.

— Дзядзька Андрэй, хто гэта ў вас так голасна крычаў?

— Драбностка гэта цётка Аўдоця паказвала дарогу сэквэстратару.

## Выпісывайце „АСВУ“

Рэдактар - выдавец: П РАДЗЮК. Druk. Sp. Wytw.-Handlowa, Trocka 7.

